ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ. АСОБНЫ НУМАР **40** ГРОШ.




ГУМАРЫСТЫЧНАЯ 2-х ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ: Завальная вул. № 7. Беларуская Кнігарня.

**№ 1.** 15 СТУДНЯ 1926 г.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 год 8 злот., „ паўгоду 4 „, „ тры мес. 2 „, „ адзін м. 1 „. За граніцу на год тры даляры, на паўгоду 1 д. 50 цэнт.




*Стары год*: Беларусы скардзяцца што: „кожны год, што мінаў, штосьці нам не дадаў, аж сабраўся так доўг не маленькі“, а я, бачыш, якую вялікую спадчыну табе пакідаю.

*Новы год*: (з плачам) Забірай сабе сваю спадчыну, бо слабы я, —ня здужаю.

# CREDO.

Пашлю тагды маланкі ў люд
У бесчасны т. й брадзіці,
Бліщчэць яскравець там і тут
І праўду сонную будзіці.
М'льёны к'ну пяруноў
У тых, каго я знаю,
У тых, што сочуць маю кроў,
У тую чорну зграю.

АЛЕСЬ ГАРУН.

*Стары год патануў ў шэрай далі,*
*А на зьмену прыйшоў Новы Год,*
*Той, якога так доўга чакалі,*
*Той, што пусьце „МАЛАНКУ“ ў народ*
*Скажа ей: гэй ляці ты, „МАЛАНКА“,*
*Цераз горы, даліны, лясы,*
*Шугай іскрамі в ночы да ранку,*
*Асьвячай ты, зямлю, небясы!*
*Кідай стрэлы, агонь пяруновы*
*На тых совау. сьляпых кажаноў,*
*Што гатуюць для волі аковы,*
*Хочуць цемры й няволі ізноў.*
*Што баяцца сьвятла горай сьмерці,*
*Толькі ў цёмнай выходзяць начы*
*Сеюць яд у народзе – бы чэрці,*
*Кінь жа ім, ты, свае пяруны!*
*Грымі громам народнага гневу*
*На перакідчыкаў, здраднікаў злых,*
*Што народам таргуюць як дрэвам.*
*Кінь, „МАЛАНКА“, агонь свой на іх.*
*Што гавораць: „мы вас абгронім“,*
*А паціху зьбів.юць труну.*
*Хай „МАЛАНКА“, агнём іх прагоне*
*А расправіцца дасьць пяруну!*
*А для тых, што галечы народу*
*Служаць верна з усіх св іх сіл,*
*Думкі сеюць брацтва і згоды*
*Зьяй, „МАЛАН А“. з нябесных сьвяцціл!*
*Зьяй ім зьяй пуцяводнаю зоркай,*
*Асьвячай камяністы іх шлях!*
*Будзь пацехай ў жыцьці іхнім горкім*
*Хай іх сэрц не агартвае жах*
*Усім тым, што Беларусь дарагую*
*Да новага, сьветлага клічуць жыцьця,*
*Пашлі ж ты, „МАЛАНКА“, іскру агнявую*
*Для вольнае думкі для іх пачуцьця!*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Будзь, „МАЛАНКА“, вагністай адважнай,*
*Усё, што злога ў жыцьці, асьвячай!*
*І сатырай сваёй пераважна*
*Нашых шкоднікаў ты адзначай!*
*Пырскай сьмехам налева, направа,*
*Сьмехам сьмелым здаровым, жывым,*
*Каб па сьвеце ўсім твая слава*
*Праняслася бы рэхам гучным.*
*Хай ня будзе тэй вёскі і хаткі*
*Дзе-б ня зьяла б „МАЛАНКА“ агнём,*
*Дзе-б яе нашы бацькі і маткі*
*Не чакалі і ноччу і днём!*
*Дык ляці-ж ты „МАЛАНКА“ пацеха!*
*Да сялянскіх палеткаў і стрэх,*
*Каб твой жарт з краю ў край нёсься рэхам*
*І ад прыгод будзіў ўсюды сьмех!*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Стары год патануў ў шэрай далі,*
*А на зьмену прыйшоў Новы Год,*
*Той, якога так доўга чакалі,*
*Той, што кінуў „МАЛАНКУ“ ў народ!*

**Я М.**

# БАЙ

Бегаў бай па сьцяне
У чырвоным каптане,
Байку баўў. Гй, лю лі!
Жылі пчолкі ў вульлі...
Баіць ці не?
— Баіць!
Бегаў бай па сьцяне...
Шла вясна па вясьне,
Жылі пчолы з году ў год,
Бралі ў соты з кветак мёд..
Баіць ці не?
— Баіць!
Бегаў бай па сьцяне..
Ніхто пчолак не кране;
Самі мёд зьбіраюць той,
Самі ласваюць зімой..
Баіць ці не?
— Баіць!
Бегаў бай па сьцяне...
У тэй самай старане
Пустапасам труцень жыў,
Неяк з пчолкамі здружыў...
Баіць ці не?
— Баіць!
Бегаў бай па сьцяне..
Труцень кажа: „Дайце мне
Глянуць, пчолкі, у вульлёк,
Паспытаці ваш мядок!“..
Баіць ці не?
— Баіць!
Бегаў бай па сьцяне...
Ці так добра, ці так не,—
Пчолкі добрымі былі,
Трутня ў госьці прынялі..
Баіць ці не?
— Баіць!
Бегаў бай па сьцяне...
Труцень пальцам на к'ўне;
Пчолкі мёд нясуць да сот,
Труцень есьць да есць той мёд..
Баіць ці не?
— Не!

**Янка Купала.**

## „ГОСЬЦІ.“

Вось што пішуць у газеце —
Ажно неяк бярэ дзіва,
Што-то робіцца на сьвеце,
Ў вёсцы асабліва.

Там паліцыя, начальства
Пільна пра ўсё дбае,
А галоўна аб сялянства
Ўжо не забывае.

З вёскі ў вёску машыруюць
Усюды глянуць ласы,—
Дый з прыемнасьцю футруюць
Смажаны каўбасы.

Н'ат ячняй не бракуюць
Ядуць хоць з скавародкі;
Адно толькі трохі злуюць
Як бяз чаркі водкі.

Аж нарэшце шмат дзе людзі
Сталі наракаці:
Калі далей гэтак будзе
Будуць пусткі ў хаце.

*К. А.*

# ЖАРТЫ.

## Цыган і маланка.

Даўно ўжо гэта, даўно было: як я яшчэ ў дварэ быў параб-кам; дзед яшчэ быў малы, а бацькі і на сьвеце ня было. Дык вось тагды да нашае вёскі прыйшоў цыган, дый затрымаўся ў нашага дзядзькі.

Дзеялася гэта ў летку, пад восень. Дзядзька яшчэ досьвіткам пайшоў малаціць у клуню, а цыган палез у гарод па гуркі. Было цёмна, хоць вока калі, толькі вось маланка як бліснье, дык на момант і асьвеціць увесь гарод, бы сонейкам. Як блісьне маланка, то цыган гуркі хапае, як блісьне, то цыган гуркі хапае! А як цёмна, стаіць цыган ды чакае, калі маланка блісьне, кажучы: „смагані, маланка, шчэ раз! Пачуў гэта дзядзька, узяў цэп, падышоў бліжэй да цыгана дый чакае. А цыган ня бача і ня чуе, што дзядзька каля яго стаіць. „Смагні, маланка яшчэ раз! — просіць цыган, а дзядзька як смагануў яго цэпам, аж не адна, а тысяча маланк яму ў вачох бліснула.

З тэй пары таго цыгана ў вочы ня бачылі, толькі ў народзе гэт. апавяданьне — п мятка засталася.

## У шпіталю.

— Ці хворы ўжо дастаў парашок на сон?

— Яшчэ не.

— А дзеля чаго?

— Бо і без парашкоў сьпіць.

— Ну і дурань з вас! Разбудзіце хворага і дайце яму парашок.

## Праўдз'в я гісторыя.

Адзін мой знаёмы яшчэ з часаў вайны усё чагосьці адварачываўся ад мяне, калі я праходзіў каля яго: зварачываў нос да выставы, альбо загледжываўся высока на лятарню.

— Што з вамі?—пытаюся яго пры здарэньні — чаго вы гневаецеся, пане сябра?

— А, бо я хаджу да унівэрсытэту...

— Ці-ж я ў гэтым вінаваты. Я-ж вам не казаў хадзіць!

— Вы не, але мама казала.

— Ну дык і гневайцеся на маму.

*„Зиз“.*

## Старшыня.

Выбралі сабе людзі старшыню. Як толькі яго выбралі, запышэў ён і зрабіўся такі панаваты што і прыступіцца да яго страшна.

Аднаго разу сядзіць на прызьбе новы старшыня і бачыць, што нехта праз вёску йдзе. Паклікаў старшыня свайго хлапца дый кажа: „Бяжы хутчэй ды запытайся, што гэта за „шышка“ ідзе праз маю вёску?“ Пабег хлапец праходжага даганяць дый гукае, каб ён застанавіўся. Затрымаўся праходжы дый пытае ў хлапца: „Чаго табе трэба?“

— „Вось, бачыце,—кажа хлапец, наш новы пан — старшыня вялеў спытацца, што за „шышка“ тут ідзе?“

— „Скажы свайму новаму старшыне, — адазваўся праходжы, — што ты дурань і твой старшыня дурань!“

Вярнуўся назад хлапец, а старшыня і пытае яго:

— Ну што?

— Гэта нейкі ваш знаёмы.

— Няўжо?!

— Але так! і вас знае і мяне знае!

— Скуль-жа ён знае?

— Ня ведаю, але казаў, што і вы дурань і я дурань!

Замоўк старшыня. З гэтай пары ўжо нікога ня пытаўся.

## Палітычная прычына.

— Што, за гатовыя боты вы жадаеце аж 70 злотых?—гэта-ж страшэнна дорага; яшчэ учора гэткія боты каштавалі 40 — 50 злотых

— Але. Вы-ж чыталі у газэтах, жто Турцыя прайграла справу Мосулю у Лізе Нацыяў, а дзеля таго і даляр падаражэў з 8 на 12 злотых

## У доктара.

— Як ваш апэтыт?—пытаецца доктар у хворага.

— Нядобры, пане доктар! Нават тыя стравы, што вы забаранілі есьці, ўжо не смакуюць мне.

## На вуліцы.

*Пан да жабрака*: Не магу вам нічога даць, бо сам нічога ня маю

*Жабрак*: А чаму вы, пане, ня возьмецеся да якой колечы працы?

## Тры браты.

Жылі сабе тры браты і хоць багатыя яны былі, а ўсё-ж ня ўмелі яны па „панскаму“ гаварыць. Вось пайшлі яны да пан скага палацу, каб навучыцца „панскай“ мовы. Малодшы брат падбег пад вакно дый пачуў два словы: „гэта мы!“ Сярэдні падбег і пачуў: „ні за сёе, ні за тое!“ Старшы падбег і пачуў: „хай так і будзе!“

Ідуць яны да дому і кожын з іх у вуме завучывае новыя словы, аж бачаць ляжыць на дарозе нябожчык, разбойнікамі мусіць забіты, ці што. Стаяць і на яго глядзяць. А гэтай пары раяжджаў паліцэйскі камісар, ды як наваліцца на іх: „Гэта вы, кажа, забілі гэтага чалавека?“ А браты і думаюць: „Як жа гэта адказаць? Ужо-ж з камісарам дык трэба па „панскаму!“ Вось меньшы, як знаў два словы дык зараз і пачынае:

— Гэта мы!

— За што-ж вы яго забілі? пытаецца камісар

— Ні за сёе, ні за тое! адказаў сярэдні брат.

А камісар як крыкне:

— У турму вас разбойнікаў!

— Хай так і будзе! дадаў, што умеў старшы брат.

Дорага пасьля каштавала ім гэтая „панская“ навука.

## Загневаўся.

— Скажы мне, добры чалавеча, дзе тут дарога на Арленяты?

— Я табе ня „добры чалавеча“,—а тутэйшы грамадзкі солтыс.

## Памыліўся.

— Ваша жонка ёсьць гэтакая прыгожая,—кажа сусед да суседа, што як толькі яе бачу, дык заўсёды прыходзяць мне на мысьль славы малітвы Гасподняй: „...і ня вядзі нас на спакушэньне“.

— Шкада, што вы яе добра ня ведаеце, — адказвае муж, бо каб вы яе ведалі, дык на ўвесь голас крычалі-б: „..але збаў нас ад злога „Аман!“

## Каля Галяў у Вільні.

— А Божа-ж мой!—во няшчасьце: сабака схапіў дзьве кілі каўбас і ўцёк.

— Не бядуй, кабеціна, сабацы нічога ня станецца, жыў будзе!




*Успамін з недаўнай прошласьці.*



*А хто там ляціць?*

Заручаны і вянец беларускай коопэрацыі, адпраўлены „пастарам“ Беларуска-польскага, эканамічнага зблізкэньня — Э. Б“ паводле новага „obrządku“ з нязьлічаным лікам шлюбных пярсьцёнкаў, а вось словы шлюбнае прысягі:

Бяру сабе за малжонку...
—Бяру сабе за ма.. (з грашамі)
Не пакіну аж на векі..
—Але выпушчу на... зьдзькі.

Мядовы месяц гэтай маладой пары закончыўся вось як:

Шлюбавалі, прысягалі,
Словы вернасьці давалі,
Цалаваліся гарача,—
Як у байцы, не іначай.
А пражыўшы крыху часу,
Муж на грошы яе ласы,
Праматаў „пасаг“ да крошкі,—
Не засталася і трошкі..
А сваю жану прыгожу
Муж паслаў у падарожу,—
Каб бадзялася ў чужыне
Аж пакуль там не загіне...
.................................
І бядуе маладзіца,
Што не свая, не чужаніца.

*Я.Я.Я.*

◁▷

Гляньце бабы, што такое
Нешта — нештачка жывое, —
Вусы, скрыдлы і з хвастом,
Ці не зваць яго чартом?

Ну і баба ты дурная!
Кума куме паясьняе:
То ж ляціць там каля хмар, —
Знаны варажбіт-ведзьмар,

Што на сьвеце усё знае,
„Кнігі чорныя“ чытае,
Скажа, што і як, калі,
Як бацькі—дзяды жылі.

Бачу я, вы маладзіцы,
Абедзьве нейкія дурніцы!—
Паўзірайцеся вы лепей,
Ці-ж вам вочы ўжо пасьлеплі?!

Гэта-ж бацька „Авадня“ —
Вось ляціць тут сярод дня;
Скрыдлы мае, а ў хвасьце
„Пяро гумару“ расьце.

Летам спаў, а ў зіму
Няма гумару яму,—
І аб тым ужо ня дбае,
Ад „Маланкі“ ўцекае.

*М. М. М.*

◁▷




*„Маланка“ і „Авадзень“.*

(„Авадзень“)... І хацеў-бы я яшчэ хоць раз палётаць па роднай Беларусі, але „Маланка“ апаліла мне скрыдлы.

## Сьляпы.

— Ахвяруйце што колечы, — просе жабрачка. Муж мой сьляпы, працаваць ня можа.

— А дзе-ж твой муж?

— Тут стаіць за дзьвярамі і пільнуе, каб паліцыянт не надышоў.

## Зімой.

*Муж да жонкі:* Чаму, Марылька, нічога ня робіш?

*Жонка:* Калі цяпер, зімой, дзень гэтакі кароткі, што няварта пачынаць працы.

## ГРАМАДЗЯНЕ!

*Падпісывайцеся самі, заахвочывайце другіх, чытайце і пашырайце новую беларускую часопісь „Маланка“.*




*„Справядлівасьць“ Лігі Народаў.*

**Турак:** Адабрала мне Ліга—Мосуль, захоча яшчэ адабраць Канстантынопаль, Ангору; хоць ты ляці са скаргай да самага Магамэта.



*Пацсха для манархістаў.*

У Румыніі насьледнікам каралеўскага трону назначаны чатырохгадовы кн. Міхал. Па ўсей Румыніі вялікае „здаваленьне“. (з газэтаў).

**Дапасаваліся да новага загаду.**

— Я чытаў у газэтах, што „чорная гелда“ ня будзе ўжо гандляваць болей валютамі на вуліцы.

— На вуліцы не, а ў панадворку колькі хочаш!

**„Беларускі“ зьезд**

— Ці чуў, Панасе, „Тымчасовая Рада“ ў Вільні ізноў адлажыла на неагранічаны час беларускі зьезд у Вільні?

— А як-жа, чуў! Казалі, што Паўлюкевіч паслаў запрашэньні на зьезд да Афрыкі, Бразыліі і на абодвы бягуны, ну... і чакае дэлегатаў стуль, бо з Беларусі ніхто ехаць ня хоча.

**Бацька і сын.**

— Даў мне, бацька, жыцьцё, давай і на пражыцьцё.

— Даў я табе, сынок, скуру, магу таксама даць і ў скуру.



*На паседжаньні ў справах напраўленьня скарбу.*

— Калі паны, хоць гэтакія мудрыя, ня можаце нічога парадзіць для дабра дзяржаўнага скарбу, то можа пазволіце каб я, дурны асёл, у гэтай справе ўзяў голас. („Mucha“).

**У школе.**

— Курачка, скажы, у якім годзе памёр Францішак Скарына?

— Гм... Скарына. Скарына... Скарына...

— Ты, Барковіч, скажы!

— Скарына? Скарына яшчэ не памёр бо я яшчэ ня чуў, каб ён быў хворы.

**Добры зяць.**

Цешча назаўсёды перабралася да зяця і кажа яму:

— Даражэнькі зяць! па сьмерці маей застанецца табе уся мая гаспадарка, а ты за гэта справіш мне урачыстае пахаваньне (хаўтуры).

— О, з вялікай прыемнасьцю, дарагая цешча! Гатоў нават сягоньня...

**Ня ведае.**

— Калі ты мне аддасі мае 50 злотых?

— А скуль я магу ведаць? што я: варажбіт, ці хірамант?

# Ні ў раю, ні ў пекле...

Напрыкрылася жыцьцё Мацею. Жыў, жыў чалавек, дабра чакаючы, лепшага жыцьця спадзяючыся. Але чым далей, тым горш, —хоць ты жывы ў яму кладзіся. Надходзяць сьвяты, а ў Мацея бяда за бядой ідзе ды бяда бяду паганяе.

— Сьмяяўся я з бацькі старога, — падумаў Мацей, але самому ў сто разоў гарэй прыходзіцца. Дзеці параспаўзаліся па белым сьвеце: — няма каму падмогі даць старому. Як такое жыцьцё, то лепей сьмерць!

І прышла грэшная думка да галавы Мацея

— Калі там тая сьмерць прыдзе, — давай лепей павешуся — сказаў Мацей і пачаў прыгатаўляць сабе пятлю на шыю. Але раптам хтосьці загрукаў ў сенях. Мацей схаваў пастронак, адчыніў дзьверы і чакае.

— Хай будзе пахвалёны, сказаў уваходзячы солтыс з бляхай на грудзях. Што-ж гэта ты, Мацей, падаткаў не плаціш, — думаеш, калі бедны, дык і плаціць ня трэба? Ня можаш, як іншыя, прадаць бычка, кароўку і заплаціць што належыцца. Во, глядзі, колькі наказаў прынёс з гміны. Гэта за страхоўку, гэта за зямельку, гэта за кароўку, гэта сэйміковы, гэта гміновы, гэта... гэта .. гэта ..

Ня чуў ўжо далей нічога Мацей. Захістаўся, як тая асіна ў восень. Пацямнела яму ў вачох і толькі глянуў, ажно гэта ня солтыс, а сьмерць з касой стаіць над ім. Усьміхнуўся радасна Мацей і пачуў, як нейкі лёгкі пар пачаў выходзіць з яго.

Як жадаў Мацей сабе сьмерці, дык яна сама прышла да яго.

Памёр Мацей. Ніхто ня плакаў па ім. Сабраліся суседзі,ператрасьлі ўсе куткі, але нічога не знашлі, ня было чым ксяндзу заплаціць. Пасьпявалі трохі суседзі і пахавалі яго ў канцы могілак, дзе заўсёды бедных хаваюць.

Паляцела Мацеева душа на неба і ўжо на другі дзень раніцай была каля райскай брамы. Доўга стукала душа ў тую браму, але ніхто не азываўся: мусіць усе яшчэ спалі. Села на ганачку душа і пачала разважаць пра ўсё жыцьцё Мацея. Успомніла яна пра тое, як Мацей пабіў стражніка, калі той прыставаў пьяны да яго жонкі, але за тое пакашгаваў і вастрогу,—бо таго ня ведаў што стражнік хоць і пьяны, а ўсё-ж начальства; а другі раз пасядзеў ў турме Мацей за тое, што, заліўшы добра вочы, узлез на воз дый на ўвесь кірмаш закрычаў. „далоў цара — я сам тут цар!“ А колькі бізуноў пакаштавала Мацеева сьпіна, што і ўспомніць трудна.

Усё-ж такі грэшнае жыцьцё вёў на зямлі мой Мацей. Ня ўмеў ён, як іншыя, усім дагадзіць:—таму пакланіцца, таму ў руку пацалаваць, таму сьцярпець, таму змаўчаць. З кожным бывала ён задзярэцца: і з панам, і з ксяндзом, і з начальствам. Яму што?!—награшыў сабе дый памёр, а мне тут лыпай вачымі перад сьвятым Пятром

Зазьвінелі ключы. Адчыніў Пятро браму, дый пытае: „Каго Бог прыслаў?“

— Гэта я,—душа Мацея—беларуса з пад Слоніма. Памёр ён са страху як пабачыў падаткі.

— Хадзі хутчэй за браму, — там разбярэмся, кажа сьв. Пётра.

Пераступіла душа першую сярэбраную браму, аж бачыць другую сьцяну з прыгожай залатой брамай, а за ёй ўжо самы рай пачынаўся, дзе чутны былі сьпевы і музыка прыгожая. Павёў Пётра Мацееву душу ў пакоі, у якіх заўсёды рабіў „баданьне“ прахадзячых душаў аб добрых і кепскіх учынках людзей на зямлі. Стала душа спакойненька перад сьв Пятром, бы салдат перад камандзерам, а сьв. Пётра пытае яе:

— Ну, гавары, што добрага твой Мацей учыніў на зямлі?

Думала, думала душа ды ніяк прыпомніць ня можа. Бедзен быў Мацей, дык ня мог грошаў ахфяровываць на касьцёл, царкву ці іншыя мэты.

А сьв. Пётра чакае з нецярплівасьцю дый злуецца:

— Гавары хутчэй, бо вон праганю.

Плаціў падаткі... — нясьмела адказывае душачка

— Яшчэ?

— Адбываў стойку.

— Яшчэ?

— Хадзіў на варту.

— Яшчэ?

— Папраўляў дарогі.

— Яшчэ?

— Гм.. гм.. больш ня помню..

— Ну, а цяпер пералічы усе Мацеевы грахі,—грозна закамандаваў сьв Пётра.

— Стражніка пабіў,—адказывае душачка.

— Яшчэ.

— Цара не прызнаваў.

— Яшчэ?

— Начальства ня слухаў

— Яшчэ?

Задумалася душачка і ніяк больш нічога прыдумаць ня можа.

— Ну думай, думай хутчэй! Ня буду-ж я тут з табою аднэй увесь дзень таргавацца, — злосна закрычаў сьв. Пётра.

— Больш ні... ні . чога ..

— Што нічога? Як нічога?! Дык ты тут хлусіць прышла?! Я цябе зараз спраўджу!

Узяў сьв. Пётра тоўстазарную кніжку і пачаў чытаць з канца.

Падаткаў да гміны не заплаціў?

— Але.

— Страхоўкі не заплаціў?

— Але.

— Сэйміковых не заплаціў?

— Але.

— Дэклярацыі на беларускую школу падпісваў?

— Але.

— На шаснастку галасаваў?

— Але.

— Беларускія газэты чытаў?

— Але.

— Дык вось бачыш, колькі грахоў знайшлося, а каб-жа ўсю кніжку перачытаць, дык усяго і на валовай шкуры ня сьпішаш.

Кінулася душа са слязьмі ў ногі сьв. Пятру, але ён гнеўна адвярнуўся ад яе.

— Ідзі. Няма табе тут месца; перад табою райскія брамы зачынены, бо грахоў у твайго Мацея болей, як добрых учынкаў. Пашла прэч адгэтуль аж у самае пекла. Будзеш там смажыцца ў смале, пакуль не адпакуеш за ўсе Мацеевы грахі.

Голасна плачучы пашла душа. — Няма ёй долі на зямлі ні ў раі. Вечарам таго самага дня была яна ужо каля пекла

Падыходзіць душа да пекла і чуе нейкія дзікія гукі, енкі, а полымя чырвонае, страшэннае шугае з-за сьцяны. Пастукала душа ў зялезную браму,—вось такую, якую бачыў Мацей за жыцьця на Лукішках.

Выскачыў з-за брамы чорт, такі самы, якога заўсёды малююць на абразох. Паглядзеў ён на Мацееву душу дый кажа:

— Давай дакумэнты.

— Што?

— Довад асабісты!

— Не разумею.

— Пашпарт дзе твой?

– Паночку! пане чорт, — загаласіла Мацеева душа, ня маю я пашпарта суе́ім.

— А скуль ты? — запытаў чорт.

— Ды з Беларусі, з пад Слоніма.

— Ага, з пад Слоніма,—дам веры —там лепей вярблюду пралезьці праз вушка іголкі, як беларусу атрымаць ашпарт; але гэта нічога. Скажы ж ты, калі беларус, ці „Грамадзкі Голас“ чытаў?

—Не, ня чытаў я гэтае брыды, з пакорай адказвае душачка.

— Што брыды? Я табе дам, брыды! запеніўся чорт.

— Даруйце, калі-ж гэта... гэта пра... пра... права...

— Маўчаць! Я цябе за язык павешу, у гарачую смалу ўкіну, будзеш усю вечнасьць смажыцца, як каўбаса на скаварадзе! Іш ты вольнадумец, гэтакі! Я столькі гадоў галаву ламаў, столькі працы палажыў, а усё ня мог ніяк нязгоды пасеяць паміж беларускага народу, аж нарэшце знашоў Паўлюкевіча ды яму „Грамадзкі Голас“ даручыў. Гэта наш пякельны орган,—разумееш ты!? Хто хоча сабе палёгкі якой ў пекле, дык павінен наш „Грамадзкі Голас“ чытаць і пашыраць. Дык што-ж мне з табой рабіць? Хадзі да Люцыпара,—хай ён сам рассудзе.

Павёў чорт Мацееву душу па нейкіх калідорах, аж да пакою, дзе сядзеў на высокім троне сам Люцыпар, а побач яго ўсялякія чэрці, ведзьмы, гады, жабы і ўсялякія страхоцьці кланяюцца Люцыпару да самае зямлі, як бы каралю якому.

— Гэта што за адзін? – пытае Люцыпар.

— Беларус з пад Слоніма — паясьняе праважаты чорт. Гэта той, што „Грамадзкага Голасу“ не хацеў чытаць, ды яшчэ бэсьціць яго.

— У пекла яго,—на самую атхлань, дзе плач і скрыгат зубамі!

А мо' даруеце, пане Люцыпар, — жаласна залямантавала душа.

— Калі хочаш прабачэньня, — прачытай цяпер хоць адзін номер

Прынясьлі цэлы гадавік „Грамадзкага Голасу“ і падаюць Мацеевай душы.

— Чытай!—закамандаваў Люцыпар.

— Не, — адказвае душа. Пакутаваў мой Мацейка за жыцьця, а я буду пакутаваць па сьмерці, толькі за нішто ў сьвеце не зраблю таго, чаго не рабіў мой Мацейка.

— Ах ты бальшавік!—гнеўна зароў Люцыпар. Вон яго ад гэтуль, — каб яго мае вочы болей ня відзелі. Яшчэ ён тут у пекле бунт падыме.

Паднялася страшэнная віхура. Дзіка загудзела, зашумела усё пякельнае царства, выганяючы вон Мацееву душу...

І ходзіць непакорная душа Мацея—беларуса, шукаючы якога-небудзь прыпынку, не знашоўшы сабе месца ні ў раі, ні ў пекле.

**Янка Новы.**

---

### Малітва.

*Наш*: „Хлеб наш насушны—хай будзе чорны, абы кусок слушны“ (справядлівы).

*Паляк*: „Хлеба нашэго повшэднэго, нех бэндзе хоць трошку тэго... але пітлёванэго.

(*З Украінскага.*)

### Подлуг новага звычаю.

— Апавядаюць людзі, што жэнішся?

— Але!

— У гэтакім паважным веку?

— Што за дзіва?! Мая будучая жонка сказала мне, што гэта толькі на пробу. У прыпадку, калі буду ня здатны, то ўжо мае на прыкмеце другога

„*Micha*“.

### „Коаліцыйны ўрад“.

— Скажы, татка, што гэта значыць:—„коаліцыйны ўрад“?

— А, гэта прыкладам: я маю дванаццаць сыноў, а сыны маюць жонак і дзяцей і вось усе разам пачнуць гаспадаркай кіраваць.

### Справядлівасьць прыроды

А ці ведаеш, на што Бог стварыў бульбу?

— На тое, каб людзі мелі што есьці.

— Не, мусіць на тое, каб бедны чалавек мог таксама дзёрці з чаго-колечы шкуру.

### Абвесьціў у газэтах.

— Надумаўся жаніцца, але ня маю з кім

— Напішы абвестку ў газэтах, што шукаеш пары...

— А як-жа, ужо абвясьціў...

— Ну і што?

— Атрымаў толькі адзін ліст і то ад роднай сястры.

### Хто пра што думае.

*Сьвяшчэнік да жаніха*: Ці ты, Стафане, маеш добрую і непрымушаную волю ўзяць сабе Тэклю за жонку?

*Жаніх*: Прымушаць мяне ніхто ня прымушае, але мы маем у полі супольную мяжу, дык шкада, каб хто іншы ня ўлез

„*Зиз*“

### Адны дапушчэньні.

— Вось-жа, шаноўны пане дапусьцім, што я прашу рукі вашай дачкі.

— Добра, але дапусьцім, што я скажу: „Ніколі ў жыццю!“

— Тагды дапусьцім, што я вешаюся ..

— І яшчэ раз дапусьцім, што гэта для мяне нічога не значыць.

### У кіне.

— Дайце мне палова білету.

— Але-ж вы сталы мужчына, а паўбілету даецца толькі дзецям, — адказывае касіерка.

— Ну, але я сьляпы на адно вока.

### Багаты і бедны.

— Паночку, пазычце 10 зл. да зарэзу патрэбна!

— Сягодня не, можа заўтра пазычу.

— Сягодня не магу—адказвае багаты на другі дзень:—можа іншым разам.

А таварыш пасьля пытэецца:

— Ты ж маеш грошы, чаму ня пазычыў яму?

— А ты думаеш, што скора з беднага атрымаеш?

— Калі ня думаеш даць, дык на што яго падводзіш?

— Я яго ня падваджу, магу даць адчэпнага, але ён больш ня пойдзе.

### „Дзеўкі“.

Мая-ж ты сястрычка, што-ж у нас цяпер за дзеўкі? Толькі я дзеўка ды ты трохі, а рэшта ўсё шуя ды мякіна.

### Старшага няма.

— А хто цяпер ёсьць найстаршым чалавекам у вёсцы?

— Цяпер, то ніводнага няма. Адзін быў такі, але ўмёр з месяц таму назад.




Божа! даруй грахі цяжкія Грабскім, Тугутэм і іншым kogutom"—бацькам „Языковых Уставаў"

# Браты Беларусы!

Пасылаючы на пробу першы нумар нашай часопісі усім акуратным падпісчыкам газэтаў: „Беларуская Ніва", „Сялянская Ніва" і „Biełaruskaja Krynica" просім Вас як найшырэй пашыраць маладую **„Маланку"** сярод сваіх знаёмых. Калі да вашай вёскі заляціць **„Маланка"**, а да суседняй не, - нясіце яе туды, паказвайце сялянам, заахвочывайце іх да падпіскі. Ад Вас, дарагія браты, саміх залежыць, каб Ваша часопісь разьвівалася, пашыралася і пакрыла густой сеткай ўсю Заходнюю Беларусь; бо калі кажды, хто атрымае гэты першы нумар, падпішыцца сам і заахвоце двух-трох сваіх сяброў да падпіскі, - гэтым самым працярэбіць **„Маланцы"** вольную дарогу на вёску.

**„Маланка"** будзе пацяшаць і разьвесяляць Вас, напоўніць Вас радасьцяй і надзеяй. Забудзецеся Вы, што жывеце ў крытычным часе безграшоўя, забудзецеся аб падатках і іншых балючках нашага сучаснага жыцьця, а будзеце сьмяяцца чыстым, здаровым сьмехам.

— Можа каму пробны нумар не падабаецца, — пастараемся **„Маланку"** паступова паляпшаць.

— Прысылайце жарты, вершы, фэльетоны і рысункі. За лепшыя рысункі будзем выдаваць прэміі.

Падпісная цана: на год—8 зл.; на паўгода—4 зл; на тры месяца—2 зл. і на адзін месяц— 1 злоты. (За граніцу тры даляры на год).

*Увага*: Часопісь **„Маланка"** з выдаваным у прошлым годзе **„Аваднём"** нічога супольнага ня мае.

Адрэс рэдакцыі: *Вільня, Завальная № 7. — Беларуская Кнігарня (Рэд. „Маланка")*.

Чарговыя нумары будуць высылацца толькі тым, хто прышле грошы. Пробных нумароў больш ня высылаем.

Рэдактар-Выдавец **Ян Луцэвіч**. Друкарня Я. Баеўскага.